Каб яшчэ мацней запужаць забітага беларускага вучыцеля, які прыехаў на зьезд, шукаючы сваей роднай школы, мала, як відаць, было пагрозаў Павлюкевіча арыштамі і надта сумнымі вынікамі. Калі дайшло да галасаваньня, віцэ-старшыня зьезду, вядомы Косьцевіч, на жаданьне сходу галасаваць тайна, запрапанаваў паіменнае галасаваньне, вынікам якога было тое, што **праціў пасланьня** дэпэшы была, фактычна, **меншая частка**, бо ўсяго 41 голас (у тым ліку ўсе невучыцялі з Грам. Саб.), за пасланьне — 15, а 30 устрымалася ад падачы свайго голасу, — ёсьць ведама, дзеля таго, каб не папасьці ў сьпіскі дэфэнзывы і ня быць пазбаўленымі грошы ад пана Павлюкевіча на дарогу да хаты...

Пасьля такіх вынікаў галасаваньня віцэ-старшыня сходу Р. Астроўскі, узяўшы слова, заявіў, што пасьля гэтага ён, ня хочучы браць на сябе адказнасьці і ня маючы адвагі гаварыць ад імя беларускага народу праз галовы праўных яго прадстаўнікоў — дэпутатаў Бел. Пас. Клюбу, — ён змушаны пакінуць сход.

За гр. Астроўскім узяў голас сэкратар прэзыдыуму, гр. Заморын, які сказаў, што, будучы салідарным у паглядах з тымі, хто меў адвагу адкрыта і рашуча падаць свой голас за пасылку падзякі Бел. Пас. Клюбу, лічыць для сябе ганебным заставацца далей на гэтым пашанным мейсцы, — і, разам з групай 15 чал., якія не знаходзіліся ў грашовай залежнасьці ад арганізатараў зьезду, пакінуў салю.

Выхадам з Зьезду палітычна сьвядомых і матар'яльна незалежных ад арганізатараў яго 15 вучыцялёў скарысталася кампанія Валэйшы, каб правясьці—пры палахлівым маўчаньні прывезеных з вёскі і стэрарызаваных настаўнікаў — тэлеграму на імя маршалка Сойму, зьмяшчаючую ў сабе выступленьне проці беларускіх паслоў. І гэта была адна—адзіная „ўдача" валэйшаўскае „Прасьветы".

---

Другі дзень пачаўся таксама „ўдачай" для лякайскае палітыкі Валэйшаў, Косьцевічаў і Паўлюкевічаў, якія з'арганізавалі „owacyjne" спатканьне „дабрадзею" беларускага народу — віленскаму куратару п. Гонсёровскаму, які „заслужыўся" беларусам тым, што пазачыняў у сваім вокрузе ўсе беларускія народныя школы (апрача аднае: у Вільні!), пазбавіў віленскую беларускую гімназію ўрадовае дапамогі і правоў, зачыніўшы гэтым яе вучн м доступ у вышэйшыя школы Польшчы. Але гэтая „owacyja" заклятаму ворагу беларускае школы, відаць, працьвярэзіла ўрэшце і вясковых настаўнікаў, якія—пасьля дазнаных на Зьезьдзе ўніжэньняў іх нацыянальнага пачуцьця,—выявілі сваі запраўдныя настроі ў рэзалюцыі ў школьнай справе, якую тут падаем у перакладзе з „Dzien. Wil.":

„З прычы таго, што польскія ўлады не адчыняюць беларускіх школ, а істнучыя школыператвараюць у польскія, супраць волі народу, што прыватныя школы ўладамі ліквідуюцца, што польскія школы ў межах Заходняе Беларусі зусім не здаваляюць патрэбаў насяленьня, што кары за непасылку беларускіх дзяцей у польскія школы спаганяюцца ў той самы час, як народу адмаўляюць адчыняньня беларускіх школ, і што, хоць беларускае настаўніцтва ня зусім выкваліфікавана, але ў беларускай мове істнуюць падручнікі, датарнаваныя да ўсіх вымаганьняў навукі,—зьезд трэбуе здаваленьня ягоных дамаганьняў і адкрыцьця вучыцельскіх курсаў, якія падгатавалі-бы ў працягу лета 1925 году кадр вучыцялёў для беларускіх школ".

У іншых рэзалюцыях зьезд высказаўся за арганізацыю пакуль-што прыватных школаў, а такжа за друкаваньне падручнікаў „гражданкай".

Такім чынам **перамога аказалася бясспрэчна на старане беларускае апазіцыі і Беларускага Пасольскага Клюбу**: зьезд, хаця—пад націскам валэйшаўскае групы—і выступіў проці беларускіх паслоў, аднак, **прыняў усю іх школьную праграму**, абвешчаную з соймавае трыбуны і праводжаную Беларускай Цэнтральнай Школьнай Радай.

# Песьні на чужыне.

## КРАЙ.

Сонца заходзіць... На вежах кляшторных
У шклах запаляюцца тысячы зорных
Ярка—чырвоных агнёў...
Хораша... Марыцца... Сэрца імкнецца
Ў край, што яшчэ прыгажэйшым здаецца,
Сумны, а родны ізноў.
Там... там усё быццам так, а іначай
Хваляю ў сэрца ліецца гарачай,
Там, там усё прыгажэй:
Сіняе, сіняе неба бяз конца,
Смутна—вясёлае, яснае сонца,
Далі бязьмежных палей.
Там... Там у гожыя, цёплыя ранкі
Песьняю срэбнай вітаюць жаўранкі
Першыя праблескі дня,
Песьняю будзяць ціхія лагчыны
Гдзе яшчэ пасам густым, цёмна-сінім
Сонна калышыцца ймгла.
Сонца там росы усьмешкаю сушыць,
Вецер там кветкі ласкае, варушыць,
Кветкі ў шырокіх лугох.
Хвойкаў там шумам шумяць верхавіны,
Дзіўна-жахліва трапочуць асіны
Ў цёмных, зяленых барох...
Бор там... Магутныя сосны асілкі,
Белы бярэзьнік, высокі, а хілкі,
Ягаднік, мох між сасон...
Цёмныя, поўныя страхаў гушчары,
Байкі сасоньніку—лесныя чары,
Птушкаў пад веткамі звон.
Вёсны там... Ласкі нясмелыя сонца
Будзяць жыцьцё у радзімай старонцы,
Робіцца неба сіней.
Вецер, пралётам, цалуе, ласкоча,
Нешта вясеньняе, мілы, шапоча,
З таячых вее палей.
Таюць сьнягі... Ручаінкі зьбягаюць,
З грукатам, звонам зямлю заліваюць,
Доўгімі робяцца дні.
Ў сініх лясох зацьвітаюць пралескі,
Сэрца хвалююць праменныя блескі
Новае вечна вясны...
Лета там... Хвалі па жыце гуляюць,
Колер зялёны ў срэбны зьмяняюць,
Срэбны ў сіні, сівы...
Сьцежкай зялёнаю ў жыта забрацца—
Можна ў золаце зьнікнуць, схавацца,
Жыта—вышэй галавы...
Косы зьвіняць на лугу—сенажаці,
Хочацца твар гдзе ац сонца схаваці,
Горача... Нехта пяе...
Горача... Жніўныя песьні па нівах
Ціха ў тужлівых плывуць пералівах,
З ветрам у даль іх нясе...
Восень там... Золата стромкіх бярозаў.—
Лісьць пачарнеўшы ад першых марозаў,—
Шу... пад нагамі шуміць.
Плавае золата з хвалямі ветру,
Срэбрам блішчыць у крыштальным паветры.
Ніць, павучынная ніць.
Пекна... А потым—туманныя далі,
Поле счарнеўшае: жыта пажалі,
Шэрая сетка дажджоў.
Высака крык жураўлінае стаі,
Крык, што, як плачам, душу надрывае,
Столькі ўжо чуты разоў!
Зімы там... Песьні глухія завеі,
Доўгія ночы, сьнягі без калеі,
Іскры халодныя зор,
Бор, што прыбраны ў льдзіны, каронкі,
Высіцца пышны, багаты і стромкі,
Сьнегам завеяны бор.
Ў вецьці бярозаў там, быццам сьлязінкі,
Тускла, халодна зіяюць ільдзінкі.
Сумна... А ў ясныя дні!
Пэрлаў, вагнёў, серабра пералівы,
Сьнежных раўнінаў праменныя дзівы,
Гэткай ня знойдзеш зімы!
Вёскі там... Гразь, саламяныя стрэхі,
Колькі рабінаў у садку для пацехі,
Студня з даўгім жураўлём...
Колькі кустоў недацьвёўшай паўрожы,
Крыж дзеравяны на канцы—раздарожжы,
Дах ад дажджу над крыжом.
Вечарам майскім вось тут, на расстані
Людзі пяюць, адмаўляюць літаньні,
Кленчуць у шэрым пылу...
Кленчаць: а сонца за вёскай зьнікае,
Золатам чыстым, густым залівае
Крыж і людзёў грамаду. *)
Верай магутнаю, сьветлаю сілай
Вее ад гэтай грамадкі пахілай,
Вабіць прыгожасьцяй май.
Нават адзін абразок гэткі ў полі—
Й сэрца цябе не забудзе ніколі,
Родны мой край!

## ВЯСНОЮ.

Ізноў вясна... Блакіту зьяньне,
І сонца ласкі, й фарбы раньня,
І ветру ў вочы пацалункі,
І чар увесь зямлі—пястункі,
Што, прабуджаючыся паволі,
Яшчэ праз сон сьмяецца ў полі,
Сьмяецца ў мглістых пералесках,
У сініх зорачках—пралесках,
Сьмяецца ў месьце нават чорным,
Сьмяецца сьмехам ясным, зорным,—
—Усё, усё даўно знаёма,
Усё перажыта мною дома...
Але душа дрыжыць, вітае
Вясну, што вечна парывае,
Вясну, што будзіць сны, жаданьні,
Няясны сум—натхненьня раньне,
Што нават тутка, у чужыне
Прамень ясьнейшы ў сэрца кіне.

## ВАСІЛЬКІ.

У жытох расьцвілі, расьцвілі васількі...
На прасторах далёкіх, нянашых палёў,
Між маўклівых, зялёных яшчэ каласоў,
На чужацкай зямлі расьцвілі.

Па пяшчаных узгорках палоскі бягуць,
Пад гарою, ўнізе, зелянеюць кляны,
Асыпаюцца яблыні—дзеці вясны,
Васількі па ўзгорках цьвітуць.

Кветкі мілыя, памяткі іншых палос,
Вузкіх метаў, паросшых румянкам, травой,
Кветкі—памяткі песьні жаўронка ціхой,
Песьні—звону з крышталяў нябёс...

Там, у гэных палёх вы ня гэтак цьвілі,
Гэткі сум не сьвяціўся ў вашых вачох,
З пахіленых, зьвяўшых напоў лепястках,
Кветкі роднай, далёкай зямі...

## ВЯЧОРНЫ АБРАЗОК.

Ўжо вечар... З яснага блакіту
Зьнікаюць фарбы, блескі дня,
І чыстым золатам заліта
Ціхіх палёў далячыня.

Істружкай сьцежак ўецца ў жыці,
Зьбягае ў ніз, паўзе вышэй,
Праз ручаёў сталёвых ніці
Бяжыць кудысь далей, далей...

На ўзгорку млын—вятрак ляніва
Часамі крыльлямі ўзмахне
І стайка галубоў пужліва
З пад даху ў неба высь памкне...

Лятуць, купаюцца ў паветры,
Зьнікаюць, круцяцца ізноў,—
Лісты, што ў восень носяць ветры,
А захад іх фарбуе ў кроў

## КАЛЫХАНКА.

Ноч рассыпала зораў вагні...
Ў сінем небе яны патанулі.
Вее сон над прасторам зямлі.
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі.

З срэбных зораў, з чырвоных агнёў
Упляту я праменны вяночак,
Над галоўкай завешу тваёй.
Люлі, люлі, засьні, мой сыночак.

Будуць зоркі малому сьвяціць,
Будуць сны залатыя дарыць.

Ўсюды ціша і сонны спакой...
Вербы гібкае веццe пагнулі
Над халоднаю, змрочнай ракой.
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі.

Я падслухаю шэпты вярбін,
Я падслухаю шорахі ночак
І зьлію ўсё у хор у адзін.
Люлі, люлі, засьні, мой сыночак.

Будуць вербы над хлопцам шаптаць,
Будуць ціхія сны насылаць...

Нібы плачучы, у кропельках сьлёз,
Прыгажуньні бярозы паснулі:
Гэта ў пэрлы прыбраў іх мароз.
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі.

Тыя пэрлінкі—сьлёзкі зьбяру,
Наніжу з іх пацёркаў шнурочак
І на шыйку завешу тваю.
Люлі, люлі, засьні, мой сыночак.

Будзе з імі маленькі гуляць,
Ручкай пацеркі-сьлёзы ссыпаць.

Сее ночка чароўныя сны
Над палямі зямелькі—матулі.
Сьніць усё... Сьні-ж аб сонцы і ты...
Люлі, люлі, сыночак мой, люлі...

Хелмно на (Памор'і) 1924 год.

**Наталя Арсеньнева.**

*) У некаторых мяйсцовасьцях есьць звычай адпраўляць маевае набажэнства каля крыжа, за вёскай, асабліва там, дзе далека да касьцела.

# „Сьмертнікі".

І вось надыйшла восень. Акно маёй адзіночкі выходзіла ў невялічкі сад, дзе гулялі хворыя з вастрожнай бальніцы. І гэта было некаторым палягчэньнем, бо процілежныя адзіночкі нашага корпусу выходзілі ў пануры двор „straceń", дзе адбываліся сьмяротныя кары, і сонца там ніколі не паказывалася. Гэтыя адзіночкі, цёмныя і вільготныя, наводзілі на сваіх вязьняў цяжкі забойчы настрой. Рэдка хто выходзіў з іх не туберкулёзным.

Маё-ж палягчэньне было ў тым, што я мог, нелегальна забраўшыся на вакно, бачыць унізе гуляўшых людзей, прыслухоўвацца да іхняга говару і бачыць сонца, якое паказывалася ў маім вакне на пятнаццаць мінут.

Усяго гэтага былі пазбаўлены мае ліхадольныя таварышы, папаўшыя ў адзіночкі на процілежным баку карыдору. Яны маглі толькі чуць прадсмертныя ўздохі ахвяр, раптоўныя каманды экзэкутара і... ахвярныя залпы. З акна-ж яны маглі бачыць абрызганы крывёй ганебны слуп...

Але з восеньні і я быў пазбаўлены сваіх прывілеяў. Хворыя вязьні ўжо рэдка выходзілі на спацыр, дый сам сад з пажоўклымі лістамі і завяўшымі краскамі на клумбах наводзіў нейкую вострa-колючую нуду. Сонца, ледзь-ледзь паказаўшыся над дахам суседняга корпусу і заглянуўшы ў адзіночку неяк вінавата, з падлоб'я, ізноў хавалася за дахам.

Частыя дажджы блізу што зусім пазбавіл нас прагулак, хоць і тыя не давалі нам вялікай

сваім звычайным шляхам“... Што гэта значыць, мы добра ведаем. І калі міністар прапанаваў абшарнікам „пазбыцца нейкае часткі зямлі“ — на карысьць „узмацненьня карлаватых гаспадарак“, дык п. Тугутт выступаў тут толькі, як „чэсны фактар“ („uczciwy pośrednik“), — які „хоча, каб на гэтым усе маглі што-сьці зарабіць“...

Дык вось яшчэ ясней формула „страшнай“ аграрнай рэформы польскага Гэрцэнгатэйна *): зямельная рэформа павінна быць такой, каб на ёй зарабілі ўсе (?), а перад усім абшарнікі... зарабілі ўсе „здаровыя чыньнікі“ на „Крэсах“, гэта значыць — палякі.

П. міністар адбівае напасьці з абодвух бакоў: урад ня хоча ані **даваць** зямлю мясцоваму насяленьню, „як прэмію за бандытызм“, — ані **адпіхаць яго** (насяленьне) ад парцэляванай зямлі. Апошні закід мае, як сцьвярджае сам міністар, пэўную падставу ў „тым, што рабілася дагэтуль“. Але трэба пераканаць насяленьне „Крэсаў“ (беларускае) „наглядным спосабам“, што гэтыя падазрэньні (хоць і абапертыя на фактах, як кажа сам міністар!) няслушныя.

Вось гэтай „нагляднай навукі“ і пачакаем.

У канцы „вывяду“ п. віцэ-прэм‘ер дадаў колькі слоў аб „Крэсавай Радзе“, да якой ён ужо, відаць, зусім страціў смак.

„Прапанаваў я беларусам ужо тут у Варшаве (а ў Вільні?) ўвайсьці ў Раду. Уважаў гэтае ўчасьце вельмі цэнным“. Але... „не належыць перацэніваць вартасьці гэтай Рады“. — Бо яна мае вартасьць толькі інфармацыйную і будзе мець характар толькі дыскусыйны. („гаварыльні“)...

Вось гэта—дык запраўды, зусім шчырыя і — залатыя словы!..

## Падрыхтоўка „санацыі Крэсаў“.

„Gaz. Warsz.“ паведамляе, што праца ў кірунку падрыхтоўкі „санацыі Крэсаў“ ідзе шпаркім крокам. Праца гэтая займе каля месяца.

Першыя распараджэньні будуць выданы каля 15 студня. Дзеля гэтае працы створаны аж 3 ўстановы: Кодыфікацыйная камісія (для аб‘яднаньня законадаўства), „Крэсавая Рада“ і „асобны Усходні Аддзел“ пры Прэзыдыуме Рады Міністраў.

Зразумела, што выраблядь усе лекі на крэсавыя хваробы будзе гэты апошні бюракратычны „Wydział Wschodni“—„запраўдная лябораторыя ўсіх мераў улады—у напрамку санацыі,“ — як пышна кажа газэт .—ведама, пад беспасярэднім кіраўніцтвам в.-м. Тугутта.

І вось вельмі цікава і важна адзначыць, што „**першым** распараджэньнем“, якое выйдзе з гэтай „лябораторыі“, будзе „кругавая парука“, — загад аб супольнай адказнасьці **цэлых** вёсак і грамадаў за напады бандытаў, ці за ўкрываньне іх.

Але ў сваей прамове ў Вільні п. Тугутт сказаў толькі тое, што, можа, прыдзецца ўвясьці калісь гэтую меру—„запраўды-ж варварскую“, як апошні спосаб барацьбы з бандытызмам, калі той ня спыніцца.

Вось, як хутка ў Варшаве па слову эвангэльскаму, „апошняе сталася першым“.

Другой пільнай мерай будзе ўвядзеньне пашпартоў на пагранічных абшарах. А пасьля ужо пойдуць (?) меры аздараўленьня адміністрацыі, крэдыты на адбудову вёсак і дапамогі павятовым соймікам.

## „Крэсавая Камісія“.

Апрача „Крэсавай Рады“, п. міністар Тугутт стварыў яшчэ і „Крэсавую Камісію“, на чале якой пастаўлены б. дэлегат п. Роман. У яе, паміж іншым, увайшоў і б. „віцэ-кароль беларускай Індыі“ п. Эдм. Івашкевіч. (Каралём“ быў п. Асмалоўскі).

## Ізноў „дапамога“ асаднікам.

„Gaz. Warsz.“ паведамляе, што „Саюз ваенных асаднікаў“ на „Крэсах“ ізноў дамагаецца ад ураду далейшых крэдытаў...

Як кажа газэта, дамаганьне гэтае будзе задаволена...

Дык-жа п. Тугутт ясна абяцаў „абаперціся на малодшыя і энэргічныя, а перад усім— „здаровыя“ (!), элемэнты на „Крэсах“—на асаднікаў....

## Прысуд у справе нападу на цягнік пад Лясной.

Даразны суд у Слоніме ў справе вядомага нападу на цягнік пад Баранавічамі засудзіў 5 абвінавачаных на расстрэл, 4 — на вечную катаргу, 13 аддадзены звычайнаму суду.

„Dz. Wil.“ дадае, што напярэдадні абвяшчэньня прысуду ў месьці масава раскідаліся адозвы, заклікаючыя адбіць падсудных, а таксама народ зьбіраўся групамі, з крыкамі проці паліцыі. Арыштаваны колькі асоб, падкідаўшых адозвы (?).

На працэсе, як падае тая-ж газэта, быў прысутны Старшыня Белар. Пас. Клюбу пас. Рагуля, які пільна прыслухоўваўся да справы і рабіў сабе заметкі.

Як высьнілася, галоўнай падставай дзеля абвіненьня паслужылі паказаньні аднаго з падсудных, які зьяўляецца вар‘ятам, ці, як пішуць польскія газэты, удае вар‘ята...

# Заграніцай.

## Пастанова Рады Паслоў.

Канфэрэнцыя ці Рада Паслоў вялікіх дзяржаў пастанавіла паведаміць Нямеччыну, што акупацыя Кельнскага раёну будзе захавана і пасьля 10/I 1925 г.—з прычыны таго, што Нямеччына не спаўняе сваіх абавязкаў, адносна да разбраеньня...

## Новая нота Нямеччыны да Лігі Народаў.

Нямецкі ўрад зьвярнуўся да Лігі Народаў з новай нотай у справе ўваходу Нямеччыны ў склад Лігі. Копіі ноты разасланы ўсім урадам дзяржаваў—сяброў Лігі.

У гэтай ноце нямецкі ўрад высказаўся перад усім проці арт. 16 Статуту Лігі, які робіць Нямеччыну зусім безаружнай.

Дык, калі-б раптам выбухнула вайна, Нямеччына, як зусім безаружная, аказалася-бы толькі „тэатрам вайны“, і па ёй, як па трупе, хадзілі-б і ваявалі-б, рабуючы край, чужыя арміі. Гэтага ніводзін урад дапусьціць ня можа. Дзеля таго Нямеччына ня можа ўвайсьці ў склад Лігі, пакуль ня будзе скасаваны ці зьменены гэты артыкул 16 Статуту Лігі.

## У Нямеччыне.

Справа ўтварэньня ўраду на грунце новага парляманту дагэтуль ня вырашана. Прычына гэтага зьявішча—ў тым, што, хаця сілы клюбаў новага парляманту зьмяніліся мала, аднак, вельмі моцна зьмяніліся адносіны паміж галоўнымі партыямі краю. Калі ў папярэднім Сойме ўрад Маркса злучаў, апрача цэнтру, людоўцаў Штрэзэмана і дэмакратаў, дык цяпер дэмакраты з людоўцамі рашуча адмовіліся ісьці разам у склад урадовай большасьці. Паміж імі—адносіны варожыя. І гэтая варожасьць амаль ня дзеліць абедзьве палові Рэйхстагу...

Гэтым дэмакраты зусім выключаюцца з усялякай камбінацыі ўтварэньня ўрадовай большасьці, бо бяз людоўцаў Штрэзэмана немагчыма ані цэнтра - правая, ані цэнтра левая коаліцыя.

Цэнтра-правы, г. зв. „буржуазны блёк“: цэнтр. баварскія людоўцы, нямецкія людоўцы, кансэрватары і „Краёвы Саюз“ з людоўцамі Штрэзэмана ў цэнтры перш за ўсё зьвярнуў на сябе ўвагу прэзыдэнта Рэспублікі, Эбэрта, які і даручыў Штрэзэману місію стварэньня габінэту.

Але гэтая камбінацыя магчыма толькі пры згодзе цэнтру, на чале якога стаіць сучасны канцлэр (прэм‘ер) Маркс.

І вось цэнтр адмовіўся ісьці ў цэнтра-правую большасьць, высказаўшыся за т.-зв. „вялікую коаліцыю“—ад „людоўцаў да сацыял-дэмакратаў уклюна. — Зразумела адмова цэнтру: ён хоча спробаваць шчасьця ў цэнтра-левай камбінацыі, на чале якой ізноў стаяў бы Маркс...

Атрымаўшы афіцыяльна адмову цэнтру, Штрэзэман зрокся даручэньня стварыць урад, аб чым і заявіў прэзыдэнту. Тады апошні зьвярнуўся да Маркса. Але людоўцы, у руках якіх ключ да абедзьвюх камбінацыяў, правалілі місію Маркса... Тэлеграма Пат‘а паведаміла, быццам справа ўтварэньня ўраду адкладаецца да сазыву Рэйхстага, які зьбярэцца 5 студня.

Але ўжо можна сказаць амаль не напэўна, што ўрад будзе створаны ўсё-ж такі Штрэзэманам, бо цэнтр гатовы пайсьці на ўступку, пры чым яго лідэр Маркс адыйдзе ад кіраўніцтва партыяй...

Француская прэса, дагэтуль выражаўшая задаваленьне рэзультатамі выбараў і спадзяваўшаяся бачыць уладу ў руках Маркса з сац.-дэмакратаў, цяпер выражае вялікае расчараваньне... Бо, калі ўрад Маркса больш-менш ляяльна выпаўняў нявыгадныя і накінутыя Нямеччыне прымусам трактаты і ўмовы, дык Штрэзэман будзе рабіць гэта на два фронты—зусім інакш: вонках будзе вывеска ляяльнасьці, а па сутнасьці ён будзе вясьці заядлую барацьбу з пераможцамі.

---

Апрача справы стварэньня ўраду, нямецкае грамадзянства вельмі занята пытаньнем аб зьняцьці англійскай акупацыі на абшары Кельну. Англія абяцалася, паводле лёнданскіх умоваў, ачысьціць ад сваіх войскаў Кельн 10 студня 1925 г. Цяпер францускі ўрад націскае на англійскі, каб той не рабіў гэтага, бо Нямеччына не спаўняе варункаў разбраеньня. Фармальнага рапарту кантрольнай камісіі аб гэтым яшчэ няма, але ўжо ў прэсе сыплюцца весткі аб тым, што быццам знайшла камісія на нямецкіх заводах... (нават робяцца 42 сантым. гарматы!..) —

Дык вось, англійскі ўрад быццам згадзіўся на дамаганьні Эрыо і ня вывядзе войска з Кельнскага раёну.

Толькі-што нямецкія паслы ў Парыжу, Лёндане і Рыме заявілі, што гэткае рашэньне было-б вялікім ударам для Нямеччыны і памагло-б толькі стварэньню ў ёй больш нацыяналістычнага ўраду і ўзмацненьню нацыяналістычных настрояў.

## Францускія настроі.

У сувязі з рэзультатамі нямецкіх выбараў і прыбліжэньнем тэрміну эвакуацыі розных абшараў Нямеччыны, акупаваных саюзьнікамі,—настроі францускіх нацыяналістаў крапчэюць, лявіца заражаецца таксама антынямецкімі настроямі правіцы, а ўрад Эрыо, пад націскам з абодвух бакоў, каб толькі ўтрымацца, стаў ужо вясьці палітыку, якая зусім ня розьніцца ні ў чым ад палітыкі п. Пуанкарэ...

Нават „Новая Эра“ (орган радыкальн. лявіцы) заяўляе, што „ўступкі Эрыо былі дрэнна паняты ў Нямеччыне, якая, відаць, мае нейкія небясьпечныя пляны“...

## Перарыў францускa-радавых перагавораў.

26.XII перагаворы паміж францускім урадам і радавым паслом Красіным былі прыпынены, і Красін паехаў у Маскву з дакладам і за новымі інструкцыямі.

Прычына перарыву — ясная: францускі ўрад Эрыо, пад націскам чысьленых уласьнікаў расейскіх цэнных папераў (аблігацыяў на пазыкі царскіх урадаў), якіх у Францыі больш мільёна. „прызнаў“ радавы ўрад... Зразумела, што гэныя крэдытары царскай Расеі пачулі сябе ў праве выкарыстаць гэтае прызнаньне, каб дабіцца ад радавага ўраду абяцаньня заплаты ўсіх гэтых даўгоў царскай Расеі. Дык вось урад Эрыо, таксама, як калісь і ўрад Мак-Дональда на лёнданскай англарадавай канфэрэнцыі,—у часе перагавораў з Красіным падтрымаў усе дамаганьні францускіх грамадзян ад ССРР, патрэбаваўшы ня толькі заплаты даваенных, але і ваенных пазыкаў, а таксама адшкадаваньняў за зьнішчаную ў часе рэвалюцыі і... хатнай вайны ў Расеі маемасьці францускіх грамадзян і звароту ім усіх даваенных канцэсіяў.

Панятна і тое, што Красін адмовіўся наадрэз, бо, каб узлажыць на зглеўшы народ новыя вялізарныя цяжары, ніводзін урад у Расеі, што-б ён сьпярша ні абяцаў „для дыпляматыі“, ня знойдзе ў сябе ні адвагі, ні, папросту магчымасьці.

Красін запрапанаваў толькі тое-ж, што Раковскі абяцаў у Лёдане. ССРР лічыць магчымым і сваім маральным абавязкам вярнуць грошы толькі дробным крэдытарам, якіх зруйнаваў крах расейскіх пазыкаў, але зусім не жадае коштам расейскага народу абраблядь „фортуны“ (багацьце) францускім банкірам, прамыслоўцам і абшарнікам, якія на падтрыманьні царскага рэакцыйнага ладу ў Расеі зараблялі вялізарныя грошы — коштам катаванага народу...

## Палітыка Англіі.

Амэрык. газ. „Chicago Trib.“ піша, што палітыка Чэмбэрлена будзе кіравацца гэткімі думкамі:

1) З прычыны сцьверджанага кантрольнай камісіяй невыпаўненьня Нямеччынай вэрсальскай умовы аб разбраеньні, Англія з Францыяй павінны згодна апрацаваць супольны плян ваенных гарантыяў, які **выключае далейшае абмежаваньне збраеньняў**;

2) Эўрапэйскія дзяржавы павінны супольна апрацаваць плян сплаты даўгоў Амэрыцы (гэта значыць: Англіі, бо Англія паручылася перад Амэрыкай за гэтыя даўгі!..);

3) Англія запросіць Францыю і Італію дзеля супольнага і згоднага супрацоўніцтва (!) ў Афрыцы (ведама, што гэта значыць: „не перашкаджай мне душыць, калі хочаш, каб я не перашкодзіў табе“!..);

4) Усе саюзныя ўрады павінны трымацца зусім нэйтральна (ня ўмешывацца) да прыватных гандлёвых зносінаў сваіх грамадзян з ССРР (— значыць, ані забараняць, ані падтрымліваць крэдытамі і гарантыямі).

---

Вярнуўшыся з Рыму — з паседжаньня Рады Лігі Народаў, міністар заграпічн. спраў Англіі, Чэмбэрлен, зрабіў у парляманьце экспозэ (праграмную прамову), у якім перад усім гаварыў аб сваей і ўсей Англіі „пашане“ да Лігі Народаў, якой толькі што... „начхаў“ на галаву, адкінуўшы ня толькі ўсю працу верасьнёвае сэсіі Агульнага Зьезду яе, але і адмовіўшы аддаць на яе разгляд канфлікт Англіі з Ягіптам... — Але п. Чэмбэрлен абварункаваў сваю „пашану да аўтарытэту“ Лігі такімі „папраўкамі“, якія зводзяць гэты аўтарытэт зусім да нуля. Ліга ў сваіх працах павінна лічыцца (не з справядлівасьцяй і правам, але—) з „сілай рэальных адносінаў“.

Кажучы аб сваіх размовах з Эрыо і Мусоліні, Чэмбэрлен сцьвярдзіў, што яны вяліся „ў духу ідэалаў Лігі Народаў і давялі да поўнай згоды і паразуменьня паміж Англіяй, Францыяй і Італіяй. Але, дадаў міністар, гэтае паразуменьне ня было дасягнута коштам іншых дзяржаваў...

Тайныя размовы і іх вынікі, як сцьвярдзіў яшчэ раз міністар Англіі, былі вельмі карысныя для ўсіх, але... „яны шмат страцілі-б на сваей вартасьці, а мо‘ зрабіліся-б не магчымымі да зьдзейсьненьня, калі-б хто з учасьнікаў іх апублікаваў іх у-ва ўсіх дэталях“...

Аб „пратаколе“, апрацаваным Лігай Народаў, англ. міністар нічога сказаць ня можа, — аб гэтым ён зусім ня гутарыў ані з Эрыо, ані з Мусоліні, бо ён стараўся размаўляць аб тым, што злучае — у супольным інтарэсе — вялікія дзяржавы, а не аб тым, што іх дзеліць...

Перайшоўшы да справы Ягіпту, Чэмбэрлен заявіў, што ў гэтым канфлікце Англія павінна была „паказаць моцную руку“ і падчыркнуць усе тыя правы і прывілеі, якія яна захавала для сябе, абвяшчаючы „акт... незалежнасьці Ягіпту“... зьмяняць гэтыя „падставы незалежнасьці Ягіпту“ можна толькі... шляхам паразуменьня з Англіяй... Што-ж датычыць справы навадненьня абшараў баваўнянай кампаніі ў Судане коштам Ягіпту, — дык міністар заявіў, што „толькі неразумныя людзі могуць думаць, быццам Англія можа пагражаць Ягіпту голадам (засухай), адводзячы ваду Ніла на гэтыя абшары“.

Урэшце, у справе „лісту Зіноўева“ міністар заявіў, што аўтарства Зіноўева сцьверджана, і ніякіх сумліваў быць ужо ня можа...

---

Орган англ. лібэралаў паведамляе, што ўрад выпрацаваў гэткія варункі „паразуменьня“ з Ягіптам:

---

*) вядомы сябра I Расейск. Думы, апрацаваўшы праект зямельн. рэформы кадэтаў.

1) Англія забясьпечывае сабе ўсе спосабы камунікацыі ў Ягіпце, якія патрэбны для ангійскіх інтарэсаў;

2) Ангійскія войскі выйдуць з Каіру і будуць разьмешчаны ўздоўж Суэцкага каналу; іх заменіць міжнародавая жандармэрыя;

3) Англія прымае на сябе... абарону Ягіпту і яго замежнага гандлю (?!);

4) паміж Англіяй і Ягіптам заключаецца абаронна — зачэпны саюз;

5) Англія атрымлівае ўпраўленьне Суданам (гэта заместа так-званага „кондомініўму“ — супольнага ўпраўленьня...).

Цяпер прынамся кожнаму ясна, што значыць у ангійскай мовы выражэньне: „незалежнасьць Ягіпту“.

У адказ на запытаньні паслоў, Чэмбэрлен заявіў, што здарэньні ў Марокко ня пройдуць бясьследна для Эўропы, бо перад усім у іх заінтарасавана Францыя. Але Англія, занятая (!) ў Ягіпце і Індыі, ня будзе ўмешывацца ў гэтую справу, а наадварот — будзе старацца, каб гэтая **мясцовая** справа не зрабілася міжнародавай.

Трэба сцьвярдзіць, што Англіі,—першая заўсёды і ўва ўсім,—і тут першая пачала ізноў карыстацца „дыпляматычнай мовай“ даваенных часоў.

---

Ангійская ўплывовая газэта „Таймс“ піша, што, з прычыны „няяснасьці палажэньня ў Нямеччыне, якая неяк неахвотна паддаецца кантролю і загадам кантрольнай камісіі, абяцаны ўрадам вывад ангійскіх войск з акупаваных абшараў Нямеччны ня можа быць зьдзейсьнены.

Як відаць, запраўды паміж Чэмбэрленам і Эрыо дасягнута поўнае паразуменьне.

## Паварот у палітыцы індыйскіх незалежнікаў.

ПАТ паведамляе, што агульна - нацыянальны кангрэс (зьезд) індусаў прыняў аграмаднай большасьцю рэзалюцыю Гандзі (правадыр індускіх незалежнікаў), заклікаючы да часовага прыпыненья так-званае палітыкі „non cooperation“ — гэта значыць: адмовы ад супрацоўніцтва з ангійскімі ўладамі ў Індыі.

Гэтую адмову ад байкоту ангійскай улады ў Індыі можна лічыць вялікай маральнай перамогай Англіі. Але трэба памятаць, што індусы маюць у сваім краю свой парлямант (хаця трохі і штучна збудаваны), свой урад і г. д. А што робіць нагул ангійскі імпэрыялізм для культуры і багацьця краю, ня гледзячы на эксплёатацыю яго, аб гэтым ужо пісалася ў беларускай газэце.

## Становішча Мусоліні.

Становішча ўжо ня толькі фашыстаў, але і самога Мусоліні пачало запраўды хістацца. Мусоліні яшчэ мог ігнараваць апазіцыю, пакуль яна была ў Сойме невялікая, хаця ў краі яе падтрымлівае ўжо зусім выразная большасьць народу. Але, калі ад яго ўласнай урадавай большасьці, прайшоўшай у Сойм па супольнаму сьпіску, пачалі аддзяляцца адна за аднэй усе нефашыстаўскія групы, тады Мусоліні пачаў „рабіць уступкі“. Але апошні ўдар, калі яго пакінуў сам стары, агульна шанаваны правадыр лібэралаў Джолітті, зусім вывеў з раўнавагі „караля фашыстаў“.

І вось цяпер апазіцыя ўжо зусім выразна жадае ня „рэформаў“ ад Мусоліні, але—адстаўкі Мусоліні.

Каб ратаваць палажэньне, Мусоліні ізноў кідаецца на штукі, якія ён рабіў паўтара года, апрацаваўшы новы выбарны закон. Нават той стары закон, які даў фашыстам дарма—пры дапамозе фашыстаў і тэрору—вялізарную большасьць у Сойме, бо папросту падараваў ім „дадатак“ у $^{2}/_{3}$ ўсіх мандатаў у парлямант, — цяпер і ён аказаўся нягодным. І Мусоліні апрацаваў такі новы выбарны закон, які касуе ўжо прапарцыянальныя выбары па сьпіскам, касуе ўсе гэныя „прэміі“ ці „дадаткі“ і ўводзіць галасаваньне па малых акругох па адным дэпутаце ад кожнага („аднамандатныя акругі), як гэта ёсьць у Англіі. Перамога кансэрватараў у Англіі і заахвоціла Мусоліні да новага экспэрымэнту ў „сваім“ краю. Проці новага закону, які бязумоўна лепшы за фашыстаўскі, аднак-жа высказалася ўся апазіцыя — якраз і толькі дзеля таго, што выпрацаваў яго і маніцца рабіць выбары той-жа Мусоліні, які разьлічае ў часе выбараў на вялікую дапамогу сваіх партыйных тэрорыстаў.

„Мусоліні—у адстаўку!“—вось лёзунг усё ўзрастаючае апазіцыі ў Італіі.

## Што робіцца ў Албаніі.

Палажэньне ў Албаніі зрабілася вельмі крытычным. Паўстанцы забралі з бою амаль ня ўсе галоўныя месты краю. Урад уцёк у порт Валону, адкуль шле адчайныя тэлеграмы да вялікіх дзяржаў і да Лігі Народаў, молячы аб помачы і вінавацючы Югаславію ў аружнай дапамозе паўстанцам...

Пакуль-што ніводная з вялікіх дзяржаў — ані Англія, ані Італія—не ўмяшалася ў албанскую хатнюю вайну, але абедзьве паслалі сваі караблі ў албанскія парты і чакаюць на адпаведны мамэнт. Італія мае ўмову з Югаславіяй і можа чакае каб дасьпеў мамэнт... дзеля падзелу „краю сталага бязладзьдзя“, як даўно ўжо называюць Албанію.

У чым прычына гэтых дзіўных разрухаў? Які іх сацыяльна-палітычны грунт?

Прычына, як заўсёды, перад усім у няроўнасьці сярод насяленьня Албаніі—як сацыяльнай, так і іншай.

Поўнач краю насяляюць албанцы праваслаўныя, галава якіх, япіскап Фаннолі зьяўляецца і галавой сучаснага ўраду. На поўдні жывуць пераважна каталікі, а сярэдзіну займаюць магамэтане. Паміж гэтымі досьць цёмнымі „паствамі“ ўсіх трох цэркваў здаўна ўжо ішла барацьба, якую раздзьмухівалі суседзі, каб валадзець краем.

Але справа блутаецца яшчэ і затым, што каталікі і праваслаўныя — пераважна бедакі-сяляне, а магамэтане—у часы турэцкае ўлады — захапілі ўсю зямлю. Гэта—паны-абшарнікі („дукі“ — князі). І вось правадыр гэтых „дукаў“, прэм'ер былога ўраду Ахмэт-бэй-Зогу, за грошы багатыроў-абшарнікаў і, як цьвердзіць урад праваслаўна-каталіцкай Югаславіі — з'арганізаваў „паўстаньне“, каб скампрамітаваць урад і захапіць уладу, аддаўшы ізноў панаваньне над Албаніяй у рукі мусульман-жорсткіх абшарнікаў.

Час „паўстаньня“ прысьпеў дзеля таго, што 20 сьнежня мелі адбыцца выбары да албанскага Сойму, дык Зогу хацеў, захапіўшы ўладу, сам правясьці выбары. Ясна, што ўсе сымпатыі аграмаднай большасьці насяленьня—на старане ўраду, бо яго падтрымліваюць ня толькі сяляне-праваслаўныя і каталікі, але і мусульманская бедната. І вось—толькі на гэтым рэальным грунце можна зразумець усю агіду тэй міжнародавай інтрыгі, у якую папаў няшчасны край — у сучасны мамэнт наступленьня рэакцыі.—Бо-ж ня толькі мусалінеўская Італія, але і праваслаўная Сэрбія рэакцыйнага Пашыча падтрымліваюць „паўстаньне“ албанскіх дукаў-абшарнікаў,—каб ізноў аддаць у іх рукі панаваньне над хрысьціянамі—сялянамі, а мо' і дзеля таго, каб, зусім скампрамітаваўшы ня толькі ўрад, але — і самую незалежнасьць краю, дабіцца ад Англіі і Францыі „мандатаў„ на... падзел Албанскага народу.

Ясна з усяго і тое, якая байка — „падтрыманьне ці „падпал“ албанскай „рэвалюцыі“ бальшавікамі!..

Можна запраўды-ж зразумець, што памагаць абшарнікам душыць сялянскую бядоту Комінтэрн ня будзе.

## Сэрбскі кароль у Парыжу.

Кароль Югаславіі раптам прыехаў у Парыж.

Пішуць газэты, што гэты прыезд мае сувязь з плянам Пашыча прыняць учасьце ў агульным „антыбальшавіцкім фронце“... А можа гэты візыт мае на мэце падгатаваць тыя ці іншыя „крокі“ сэрбскага ўраду ў албанскім пытаньні?..

## У Югаславіі.

У партыі харвацкіх незалежнікаў (Радіча) зрабіўся раскол... 22 дэпутаты выйшлі з соймавага клюбу і на выбарах маюць выступаць самастойна. З Белграду пішуць, што прычына расколу — зносіны Радіча з Масквой, дзеля якіх кампраміталася ўся партыя і якія выклікалі страшэнны тэрор ураду Пашыча на ўсіх дзеячоў партыі.

## Арышты камуністаў у Румыніі.

26.XII — у часе аблаваў па ўсей Румыніі, а перад усім у Бэсарабіі, — паліцыя арыштавала больш за 400 камуністаў, быццам сяброў тэрорыстычных арганізацыяў, падтрымліваючых сувязь з СССР.

## Дэклярацыя новага эстонскага ўраду.

Прэм'ер новага эстонскага габінэту, Яксон, зрабіў у парляманце вельмі цікавую праграмную дэклярацыю, у якой заявіў, што першай задачай ураду будзе ўмацаваньне ўнутранае і вонкавае бясьпечнасьці дзяржавы. Дзеля таго трэба перад усім палепшыць матар'яльны стан арміі, пашырыць кадры паліцыі і чым хутчэй арганізаваць міліцыю. У галіне вонкавай палітыкі ўрад будзе імкнуцца да таго, каб пашырыць у мэтах міру—эстонска-латвійскі саюз на ўсе балтыцкія дзяржавы, уключаючы ў яго і Польшчу (з Літвой?!).

## Чорныя госьці ў Маскве.

У Маскву прыехала дэлегацыя ад нэграў з розных афрыканскіх калёніяў. Радавыя ўлады зрабілі дэлегацыі гарачы прыём. У прамовах правадыры радаў заклікалі каляровых людзей да вострай барацьбы проці панаваньня над імі белых „прыраджоных гаспадароў“.

## Новыя паражэньні гішпанцаў у Марокко.

Афіцыяльнае паведамленьне гішпанскага камандаваньня гаворыць аб новых паражэньнях арміі дэ-Рывэры ў Марокко. — У ўсходняй частцы краю паўстанцамі разьбіта цэлая калённа гішпан. войскаў пад камандай генар. Саро. Некалькі тысячаў узяты ў палон разам з генаралам. Рэшта палягла.



# Аб чым пішуць.

### Голас праўды.

Усе тыя беларускія народныя жальбы, якія пераказуе наша прэса і абвяшчаюць усяму сьвету з соймавае трыбуны нашы дэпутаты,—старана, зацікаўленая ў тым, каб затушаваць цёмныя бакі польскае палітыкі ў Заходняй Беларусі, абвяшчае ці то проста нязгоднымі з праўдай, ці пусканымі і раздзьмуханымі „моднымі“ бальшавікамі. Вось-жа мы падаем тут голас, якога хіба ані ў „антыпаньствовасьці“, ані ў „варожасьці да польшчыны“ западозрыць нельга: гэта — голас кобрынскага абшарніка, Язэпа Баньковскага, надрукаваны ў галоўным органе польскае эндэцкае партыі „Gaz. Warsz.“

Вось, што піша п. Банькоўскі ў № 345 „Gaz. Warsz.“ і чародным у стацьці пад загалоўкам: „Z życia Kresów wschodnich“.

Перад усім аўтар стаўляе пытаньне: як магло стацца, што беларускае насяленьне

> „ня раз тужліва ўспамінае часы жыцьця ў этапных і прыфрантовых адрэзках нямецкае акупацыі?“

ня ўзіраючыся на тое, што

> „гэта былі часы, калі яго (гэтае насяленьне) бязьлітасна і груба абдзіралі на карысьць вялікае нямецкае айчыны“.

Аўтар дае на гэта вось які адказ:

> „Першым падставовым варункам пашаны да ўлады павінна быць пасьледавальнасьць і сьвядомасьць мэты ў пастунаньні яе, — чаго, на жаль, аб нашых крэсавых упраўленьні нельга сказаць“.

Адзначыўшы далей факт, што польская сыстэма ўпраўленьня зьмянялася ажно тры разы (у Віленшчыне — чатыры!), п. Банькоўскі кажа:

> „Пры перамене кожнае сыстэмы ўпраўленьня адбывалася, як правіла, перамена людзей на службовых становішчах, якія, мала або і зусім ня ведаючы тутэйшых адносінаў, рабілі экспэрымэнты, выдавалі невыпаўнімыя загады, а які вынік? Сягоньня **на Крэсах няма ніводнага чалавека, не выключаючы і найвышэйшых дзяржаўных урадоўцаў, якога нельга было-бы пацягнуць да адказнасьці** за парушэньне законаў і правілаў—ці то абязываючага расейскага сабраньня законаў, ці загадаў цывільнага камісара, прыфрантовага каманданта, ці прыказаў ваяводы або старасты, якіх у некаторых паветах бывае па колькідзесят на год.

Далей аўтар дае прыклады таго, як улада карае насяленьне за ўжываньне скасаваных старых расейскіх мераў, а сама „сьпісывае зямлю ў *дзесяцінах*, зьбірае з народу збожжа на гміну ў *пудах*“ і г. д.; як учасе, калі народ сядзеў у зямлянках, выдаваліся загады аб нейкіх „накрыўках“ да студняў, ад якіх загнівалася і заражалася вада; як

> „у краю, зьнішчаным вайной, дзе народ з трудом разжыўся на калёсы, якія прадстаўляюць зьлепленую зьбераніну астаткаў вазоў, ужываных паміж Рэйнам і Ўладывастокам,— у краю, дзе нярэдка конь тонець у балоце на грунтавой дарозе,—дзеля кансэрвацыі дарог выдаюцца загады аб абавязковай шырыні каляіны“...

Аўтар перакананы, што

> „без натхненьня дзяржаўных урадоўцаў ідэяй, што **яны істнуюць на тое, каб служыць народу і паказваць яму дарогу да палягчэньня жыцьця**“,

не паможа тутака

> „ніякое будаваньне дамоў для ўрадоўцаў, ані павялічэньне пэнсіі крэсавым чыноўнікам, дый паказваная вонкавая старана магутнасьці дзяржавы дарогай надзвычайнае ўрачыстасьці пры прыезьдзе міністраў, стаўляньне пры кожнай нагодзе трыумфальных брамаў, экіпажы паноў старостаў — не паслужаць дзеля аб'яднаньня крэсавага насяленьня з мэтраполіяй“ (Польшчай).

Як жаль, што газэта, якая зьмясьціла гэтую стацьцю паляка з Заходняе Беларусі, сама глядзіць на ўсё гэта зусім другімі вачыма, чым гэты „вядомы дзеяч і крэсавы абшарнік“! Бо-ж у № 351 „Gaz. Warsz.“ даводзіць, што ня Польшча істнуе для народу — нават польскага, а як-раз наадварот: народ істнуе дзеля Польшчы! Дык дзе ўжо тут гаварыць аб „натыханьні“ ўрадоўцаў ідэяй служэньня народу...

